

# Ніва



ГОД І № 25 БЕЛАСТОК, 19 ЖНІЎНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.

МІКОЛА ЗАСІМ

## МАЦІ

Маці дарагая, маці мая міла,
Каб магла ты, маці, ўстаць цяпер з магілы,
Каб магла ты ўбачыць, як цяпер на свеце
Вольна і шчасліва жывуць твае дзеці.

Не хаджу я,маці, цяпер цёмнай ночкай,
Не хаваю ў лесе я сваіх слядочкаў,
Не ступаю ціха, каб не чулі каты.
Я цяпер, матуля, як арол крылаты.

Я цяпер убраны, я цяпер абуты,
Не зарослы мохам ад цяжкой пакуты.
І жыву не ў лесе, а ў хаціне чыстай.
Стаў я ў часе бою, маці, комуністам.

Каб ты ўстала, маці, і каб паглядзела,
На капу гадочкаў ты-б памаладзела,
Заспявала-б песню ты яшчэ, матуля,
Апранула-б белу вышыту кашулю.

З радасці згуляла-б «Юрачку», «Мікіту»
Для сваіх на радасць, ворагам на ліха...
Ды не ўстанеш, маці, ты з сырой зямліцы,
Жыццё адабралі каты-чужаніцы.

Ведаю, матуля, перш, чым смерць скасіла,
Пра свайго згадала партызана-сына.
Спі спакойна маці! Вобраз твой да смерці
Берагчы я буду у сыноўскім сэрцы.

Мяне-ж гадавала ты ў такой няволі,
Нават нарадзіла на кулацкім полі,
І пайшла за прачку ты у двор служыцы,
Каб скарынку хлеба сыну зарабіці.

Мора слёз праліла праз мяне ты, мама,
Як сядзеў пры Польшчы за турэмнай брамай,
І не раз жандары панскага маршалка
За мяне, матуля, цябе білі палкай.

Ўсе ты па-геройску зносіла прынукі,
Ўсё на Усход ўзнімала у мазолях рукі
І адтуль збаўлення ты ўсё-ж прычакала,
Ды пажыць у шчасці давялося мала.

Немцы-крывасмокі адабралі волю,
Залілі край родны горам ды бядою.
І за партызана-сына і паэта
Цябе, дарагая, страцілі са свету.

Хай зямля, матуля, табе лёгкай будзе
І, як пух, атуліць прабітыя грудзі.



*Гарэльефы на помніку-абеліску воінам і партызанам, якія загінулі пры вызваленні Мінска. Фрагмент народнага мастака БССР А. Глебава.* *Глядзі тэкст на стар. 6.*

### З французскай палітычнай карыкатуры



*Опорэ Дам'е. «Вы можаце слова, растлумачце...» 1835. Літаграфія.*

АЛЯКСАНДР ЛАШУК

## РЫБАЦКІЯ СЛЁЗЫ

Усе жыхары Фрамборка, рыбацкага гарадка над Віслянымі залівам, добра ведаюць Пятрука Савіцкага — ведаюць за яго сілу мядзведзіо, за яго, пры гэтым, мяккі характар.

Ніхто, як ён гэтак лёгка не выцягвае сеткі. У яго, у адной руцэ больш сілы чым у другіх, у двух.

І хто-б паверыў, што Пятрук, — мужык-волат будзе плакаць, плакаць непрымераючы, як баба. Адкуль маглі ўзяцца ў Пятрука слёзы? У старога ўжо рыбака, твар якога секлі марскія віхры. Дзіўна гэта, дзіўна...

Нарадзіўся Пятрук у беднай сям'і, у сяле Нарач, над возерам такой-жа назвы. Удалося яму правучыцца два гады ў сялянскай польскай школе. Паспеў ён там схваціць у галоўку азбуку, пазнаць, што ў Пілсудскага „дзядзькі" былі вусы і навучыцца пець „Ешчэ Польска".

Па гэтай адукацыі бацька Пятрука сказаў:

— А, ну Пятрук, хапануў ты школы, азбуку пазнаў, цяпер давай, на нашу рыбацку лекцыю. — Дзядзька Мікола ўжо ў душагубцы на цябе чакае.

Не паспеў бацька аглянуцца, Пятрук ужо з дзядзькам. Выдаўблена з дубовага пня лодка чуць не перавярнулася. Пятрук не зважаючы на гэта, на ўвесь голас крычаў:

—Дзядзячка, дзядзячка, буду вам дапамагаць, калі паплывем на возера!!!

З вачэй Пятрука біла шчасце, а хвалі Нарачы скакалі ў сонцы, цешыліся новым рыбаловам.

Рыбакі паплылі ўздоўж берага возера, падымаць міроўжы. Барадаты дзядзька Мікола, доўгай палкай прапіхаў душагубку праз густыя чароты.

— Пятрук! скруці мне „банкрутку" — прарваў ціш дзядзька Мікола.

Пятрук дастаў табакерку з „самасеем" і газету, скруціў грубую „казеножку".

— Маладзец, — смяяўся дзядзька — маладзец, хоць ты адзін удаўся ў дзядзьку.

Хлапец аж пачырванеў ад дзядзькавых слоў. Умеў дзядзька зайграць на душы малыша, умеў...

Падплылі да застаўленай міроўжы. Бацька Пятрука пачаў выцягваць сеткі з нарачанскай глыбіні, у лодку пасыпаўся багаты ўлоў: зялёныя, злыя шчупакі, шырокія, як талеркі ляшчы, лянівыя, а жывушчыя ліны і серабрыстыя плоткі.

Пятрук пазнаў ужо цэлае багацце Нарачы.

— Дзядзька вось глянь, які вусаты сум... дзядзька глянь, ёсць і сея.

Той рыбай найбольш цешыўся Пятрук. У купцоў на іх была цана. Ведаў Пятрук, што за гэтую злоўленую рыбу, будзе ад дзядзькі гасцінец, — цукерка з крамы Майсея.

Сонца паднялося высока. З багатым уловам ехалі дамоў. На беразе чакалі рыбакоў купцы—мядзёльскія яўрэі. Бацька з дзядзькам лічылі колькі грашыма выйдзе за ўлоў. Ніколі не бралі іх шмат. Купцы ведалі, што рыбакам трэба грошай.

Ну, а дзе-ж ён прадасць рыбу, усюды далёка, на рынак у Вільню не павязе. А тут, на месцы плацілі колькі хацелі.

Добра ведалі купцы, што паны любяць. Цанілася нарачанскае багацце на панскіх сталах. Давалі заробак, што... эх! — Але Пятрук не ведаў гэтых спраў. Яму поўнасцю даволі было за яго лоўлю — гасцінец — салодкая цукерка за пяць грошы.

Вось так Пятрук над сіняй, пявучай вадою Нарачы, цягнуў штодня рыбу. І хацеў быць як найхутчэй такім вялікім, як бацька. Пакуль што, усё круціў „банкруткі" і хутка пазнаваў таямніцу рыбалавецкага „мастацтва". І не толькі гэта, пазнаваў ён таксама і другія справы.

Аднойчы йшлі яны дамоў па неблагім улове. Удалося і рыбу прадаць „летнікам". Дзядзька ідучы падспеўваў з бацькам.

— „Ну, вясёлыя, пап'юць і самагонкі" — падумаў Пятрук, заціскаючы ў руцэ свой гасцінец — дваццаць грошы.

*(Працяг на стар. 4).*

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Інж. Здзіслаў Ольшэўскі

# Ці з Беластока можна ўбачыць Маскву?

Напэўна неаднаразова даводзілася вам чуць такую думку, што ўласнікі тэлепрыёмнікаў (тэлевізараў) могуць карыстаць з тэлеперадач толькі ў гэтакім выпадку, калі тэлевізійны цэнтр знаходзіцца не далей некалькі дзесятак кіламетраў.

Чаму так? Чаму нельга прымаць тэлеперадач на большай адлегласці?

Тэлевізійныя хвалі разыходзяцца ў простай лініі і толькі да лініі гарызонта. Па-за лінію гарызонта тэлевізійныя хвалі праходзяць у вельмі нязначнай ступені.

Хочучы павялічыць радыус (плошча прыёму) тэлевізійнай станцыі, неабходна трэба перадавальную антэну змясціць як-найвышэй па-над зямлёю. Звычайна выкарыстоўваецца ў гэтых мэтах вялікія горы або высокія мачты. Ведаем, што калі станем на нейкім узвышшы — напрыклад, на вяршыне гары, ці на даху высокага будынка, то наш далягляд выдасца вельмі шырокім, знікаючым недзе ў імгле далечыні.

Аднак такім чынам яшчэ не ўдасца нам павялічыць нармальнага радыуса тэлевізійнай станцыі на сотні кіламетраў.

Напрыклад, вельмі лёгка падлічыць і пераканацца, што каб даць мажлівасць прымаць тэлеперадачы на адлегласці 150 км. такую станцыю трэба было-б абсталяваць у антэнны мачт аб вышыні не менш... аднаго кіламетра. Як відаць, гэтакі спосаб цалкам неэканамічны, дарагі і без большых эфектаў.

Хаця, як вядома, у некаторых месцах пабудавана антэнныя мачты нават да 500 м. вышыні і праектуецца пабудову яшчэ вышэйшых, то гэта свайго роду толькі спарадычныя рэкорды, якія не знайшлі шырокага прымянення.

Зрэшты не мае гэта большага сэнсу бо радыус такой станцыі звычайна канчаецца ўсяго на сто і больш кіламетрах.

Нармальна антэнныя мачты аб вышыні 150—300 м. лічыцца поўнасцю эфектыўнымі.

Малы радыус з'яўляецца найбольш сур'ёзным недахопам у сучаснай тэлевізійнай тэхніцы і таму цяпер праводзяцца шматлікія навукова - тэхнічныя даследванні дзеля развязкі гэтай праблемы.

У сучасны момант найбольш практычным спосабам перадачы тэлехваль на большыя адлегласці, з'яўляецца пабудова малых перасыльных тэлестанцый, адпаведна размешчаных у данай частцы краіны.

Дзейнічанне такіх пабудоў заключаецца ў прыёме тэлевізійнай станцыі знаходзячайся ў радыусе данай перасыльнай тэлестанцыі і пасля адпаведнага ўзмацнення, перасыланні гэтых сігналаў наступнай, суседняй перасыльнай тэлестанцыі. Такі спосаб перадачы тэлепраграм з'яўляецца рэальным і нават шырока практыкуецца такая перадача тэлепраграм з адной краіны ў другую, на прасторы некалькі сот і тысяч кіламетраў.

Тэлепраграмы перасылаецца таксама пры дапамозе электрычных кабеляў. Аднак гэтакі спосаб — вельмі дарагі.

Да выпадкаў прыёму па тэлебачанню ў адлегласцях значна большых ад звычайных залічваецца прыёмы тэлепраграм у 100, 200, а неаднаразова і больш кіламетрах ад перадавальнага тэлецэнтра.

Як аказалася, гэтая з'ява абгрунтоўваецца на тым, што невялікая частка энергіі электрамагнітных хваль па прычыне розных фізічных з'яў, пранікае па-за лінію гарызонта і то даволі далёка.

Наколькі падчас нармальнага прыёму ў невялікіх адлегласцях, атмасферныя з'явы не маюць ніякага ўплыву, то ў гэтым выпадку назіраецца нешта супраціўнае: увогуле мажлівасць добрага прыёму на вялікіх адлегласцях у вялікай ступені залежыць менавіта ад стану зямной атмасферы, коратка кажучы — ад надвор'я.

Трэба таксама лічыцца з тым, што якасць прымаемых праграм па тэлебачанню часта далёка недастатковая, а прыём можа здзяйсняцца толькі і выключна пры дапамозе высокачуллівых тэлевізараў.

— Ну добра — скажаце — а, як выглядзіць праўда аб прыёме замежных тэлевізійных станцый адлеглых на 1000 і больш кіламетраў?

Ці на самай справе можна ўбачыць напрыклад Маскоўскую тэлепраграму ў Беластоку?

Ультракароткія хвалі часта чыняць нам нечаканасці дзякуючы якім, прыём вельмі далёкіх тэлевізійных станцый з'яўляецца мажлівым. Як ужо ўспаміналася, гэтага тыпу хвалі ў асноўным не адбіваюцца ад электрызаваных «люстэрак» якія так моцна ўздзейнічваюць напрыклад на кароткія хвалі.

Але, як гэта заўжды бывае — няма правіла без выключнасцей.

Аказваецца, што ў пэўныя поры года і сутак, у верхніх слаях атмасферы ўтвараюцца моцна электрызаваныя пласты паветра, якія могуць адштурхнуць назад, да зямлі нават ультракароткія хвалі.

Выпадкі такога стану атмасферы здараюцца досыць рэдка, а ў большасці ў летнюю пару. Тэлевізійныя хвалі падобна, як і кароткія пераносяць на вялікія адлегласці не толькі гук але і вобраз.

Трэба тут адразу растлумачыць, што прыём па тэлебачанню пры дапамозе такіх адштурхнутых хваль ніколі не з'яўляецца пэўным, таму што, як мы назавем — «электронныя хмары» з'яўляюцца неспадзявана і таксама неспадзявана знікаюць.

Гэтыя хмары вельмі рухлівыя і таму прыём, пераважна мала стабільны, безупынна заміраючы. Толькі ў выключна спрыяльных атмасферных умовах можна разлічваць на лепшы і даўжэйшы прыём па тэлебачанню.

Апроч гэтага адштурхнутыя хвалі могуць быць выкарыстаны ў сістэматычных доследах у галіне тэлебачання. Што будзе далей — пакажа будучыня.

Шмат з'яў яшчэ дакладна не даследавана. Найменей даследавана з'ява распаўсюджвання ўльтракароткіх хваль, хваль якія ўжываюцца ў тэлевізіі, у сучасны момант.

Трэба быць цярплівым!

**P. S.**

*Здаючы гэты нумар у друк мы даведаліся, што аўтар гэтага артыкула, — інж. Здзіслаў Ольшэўскі, 22 ліпеня г. г. на тэлевізары ўласнай канструкцыі глядзеў Варшаўскую тэлеперадачу з вайсковага парада ў сувязі з Ліпеньскім святам.*

*РЭДАКЦЫЯ*

# Навіны навукі і тэхнікі

## МЕХАНІЧНЫ МУЛЯР.

У Варшаўскім клубе рацыяналізатараў - будаўнікоў праходзіць выпрабаванні новая цікавая машына — механічны муляр. З яе дапамогай можна весці кладку сцен у сотні разоў хутчэй, чым звычайным, ручным спосабам. Максімальная прадукцыйнасць механічнага муляра складае 60 тысяч цаглін у гадзіну. Для выканання такой работы ўручную патрабуецца 400 чалавек, у той час як машыну абслугоўваюць толькі тры чалавекі.

Асноўную частку новага механізма складаюць два вялікія барабаны са спецыяльнымі гнёздамі. У гэтыя гнёзды падаюць цагліны, якія прыносіць транспарцёр. Пад уплывам сілы цяжару цаглін барабаны прыходзяць у рух і робяць кладку сцяны. Цэментавы раствор падаецца спецыяльнай помпай. Уздоўж сцяны машына перасоўваецца з дапамогай электраматора. Створан механічны муляр рабочым-будаўніком Здзіславам Шчэсным з горада Шчэціна.

## ШТУЧНЫ ДОЖДЖ.

У зарубежнай навуковай літаратуры ёсць паведамленні аб выніках некаторых доследаў па штучнаму стымуляванню дажджу.

Воблакі, як вядома, уяўляюць з сябе кандэнсаваную ў кропелькі пару. Радыус гэтых кропелек не перавышае звычайна сотых долей міліметра, але воблачная маса ў цэлым, якая дасягае глыбіні ў некалькі кіламетраў, утрымлівае велізарную колькасць вільгаці. Для таго, каб прымусіць гэтую жыватворную вільгаць выпадаць там, дзе гэта патрэбна, вучоныя прабавалі на яе ўздзейнічаць рознымі спосабамі. Адзін з іх заключаецца ў тым, што воблакі абцяжарваюць шляхам апырсквання вадой (дажджаванне воблакаў). Больш паспяховым з'яўляецца метад увядзення ў масу воблакаў іёдзістага серабра. У доследах-жа, якія праводзіліся ў поўночных раёнах Аўстраліі, дзе мусоны ствараюць густую воблачнасць, а выпадзенне ападкаў нязначнае, быў выпрабаван іншы прыём: воблака «прымушвалі» праліваццa, ахаладжваючы і абцяжарваючы яго грануламі штучнага ільду. Гэты спосаб аказаўся вельмі эфектыўным.

У адным з аўстралійскіх доследаў быў выклікан дождж на плошчы ў 40 квадратных міль (10 тысяч гектараў). Дождж ішоў паўтары гадзіны і даў 12,5 міліметра ападкаў. Ва ўсходняй частцы штата Вашынгтон (ЗША) у чэрвені 1950 года двойчы быў выклікан дождж з воблакаў над пасевамі пшаніцы, што дало магчымасць атрымаць ападкаў у 4—5 разоў больш, чым звычайна ў гэты час года.

Аднак праблема штучнага дажджу ў цэлым яшчэ далёка не вырашана і па ранейшаму настойліва вывучаецца вучонымі.

## ЛЯСНЫ ПЛУГ.

Польскае агенцтва друку паведаміла, што Ленчыцкі завод лясной прамысловасці ў Пенеку (Лодзінскае ваяводства) выпусціў першую партыю новых трактарных цяжкіх лясных плугоў вагой 600 кілаграмаў кожны, прызначаных для пракладкі проціпажарных каналаў у лясах. Плугі аснашчаны аўтаматычным прыстасаваннем, якое поўнасцю выключае магчымасць азарый. Пры трападанні плуга на вялікі валун або тоўсты корань дрэва плуг аўтаматычна адчэпліваецца ад цягача.

## ЗНІШЧЭННЕ ПУСТАЗЕЛЛЯ АГНЕМ.

На працягу апошніх некалькіх год у ЗША праводзяцца вопыты па знішчэнню пустазелля пры дапамозе працяглага полымя, атрымліваемага пры спальванні вадкага прапану.

Знішчэнне пустазелля гэтым метадам павінна праводзіцца сістэматычна на працягу доўгага перыяду. Поспех у гэтай справе залежыць ад здольнасці культурных раслін пераносіць высокія тэмпературы.

На некатарых участках выпальванне пустазелля праводзяць да выхаду з глебы парасткаў асноўных культур. Найбольш эфектыўным спосабам знішчэння аднагадовага пустазелля з'яўляецца паўторнае выпальванне яго вясной або з наступленнем лета.

Асноўнымі рабочымі органамі машыны для знішчэння пустазелля спальваннем з'яўляюцца гарэлкі - агнямёты. Гарэлкі выраблякоцца розных размераў і форм, як ручныя, так і навесныя на трактар. Яны выкідваюць полымя з вялікай хуткасцю і спажываюць шмат паліва. Некаторыя машыны маюць больш трыццаці злучаных паміж сабой гарэлак і могуць апрацоўваць радок шырынёй больш сямі метраў. Вялікія гарэлкі выкідваюць полымя на адлегласць да 2,3 метра.

## КУКУРУЗАЎБОРАЧНЫЯ МАШЫНЫ НОВЫХ УЗОРАЎ.

У ЗША распрацаваны дзве новыя мадэлі кукурузаўборачных машын: аднарадковая мадэль для чатырохколавага трактара і двухрадковая — для трохколавага трактара. У гэтых машынах ужыты новы прынцып абрыву пачаткаў са сцяблоў кукурузы, які заключаецца ў тым, што сцяблы падаюцца абрыўнымі ролікамі, размешчанымі пад вуглом 45 градусаў. Дзякуючы гэтаму страты значна зніжаюцца ў параўнанні з вертыкальнай падачай сцяблоў.

З дарожнага дзённіка (3)

# Некалькі слоў аб гісторыі

Як кашмарны прывід устаюць перад вачыма палыхаючыя сялянскія страхі, рассыпаўшыеся сцены гарадоў, дарогі ўсеяны чалавечымі жыццямі.

2 мільёны знішчанага мірнага насельніцтва, 209 разбураных гарадоў, 9.200 сёл, 1.200.000 будынкаў, 10.000 калгасаў, 92 соўгасаў, 337 МТС, 1.136 бальніц, 1.085 вузаў і школ, 10.000 прамысловых прадпрыемстваў — вось сляды, якія пакінула ў Беларусі фашысцкая погань.

З сцен музея ўзіраюцца на нас вочы патрыётаў — верных сыноў Беларусі. Экіпаж бамбардыроўшчыка капітана Гастэла, загінуўшага героя. Унізе астанкі самалёта, на якім легендарны лётчык зрабіў апошні вылет.

Далей цэлы раздзел Айчыннай вайны — партызанскі рух. Нядарма Беларусь называлі радзімай партызанаў. Тут дзейнічала больш 1.000 партызанскіх атрадаў.

У зале партрэты першых герояў Савецкага Саюза — партызанаў, — беларусаў, Бумажкова і Паўлоўскага. На падлозе ўсялякія роды партызанскай зброі. Ля сцен самаробныя партызанскія сцягі, рукапісны партызанскі друк— сшыткі, любоўна аформлены партызанамі. У артыкулах, вершах, малюнках — гнеў і помста.

На сценах — карты размяшчэння партызанскіх атрадаў, падпольных арганізацый і друку.

Колькі ўспамінаў з недалёкага мінулага наводзяць на думку гэтыя залы.

Што гэта? Падполле Беласточчыны, не маючы адпаведных умоў дома, тут знайшло сабе дастойнае месца.

Нейк крыўдна робіцца, што нашыя культурныя дзеячы забылі аб слаўных подзвігах нашых партызанаў і не паклапаціліся зрабіць аб іх нават марнай выстаўкі. Гэта па-просту разгільдзяйства і непаважанне гісторыі.

Часта гаворым, што ЗМП-оўская моладзь страціла баявы характар. Ставім моладзі ў прыклад пакаленне першых гадоў народнай улады, калі ЗВМ-оўцы змагаліся з бандамі, калі арганізацыя моладзі была баявая. Часам прыводзім у прыклад Алега Кашавога і «маладагвардыйцаў», часам успамінаем аб Янку Красіцкім і ЗВМ-оўцах — падпольшчыках Варшавы ці іншых гарадоў цэнтральнай Польшчы. Забываем, што ў нас дзейнічаў комсамол.

Ці-ж не цікавіць нашу моладзь комсамольскае падполле Беласточчыны? Ці-ж каб даведацца, што ў нас за акупацыі дзейнічалі Беластоцкі абком комсамола, Гайнаўскі, Кляшчэляўскі, Семятыцкі, Бранскі, Заблудаўскі, Бельскі, Беластоцкі, Замброўскі, Снядаўскі райкомы, трэба ехаць аж у Мінск?

А колькі цікавага мог-бы расказаць нам падпольны комуністычны друк.

Разбягаюцца вочы, прагна ўглядаючыся на пажоўклыя старонкі «Белостокской правды» (абласная газета), раённых газет, такіх, як: «Гайновский рабочий» (Гайнаўка), «Вперёд на врага» і «Прэч немцаў з нашай зямлі» (Бранск), «За родину» і «Красное знамя» (Лапы), «Патриот родины» (Чыжава), «За нашу победу» (Снядава), «Молодой партизан» (Беласток).

Ці-ж не варта заняцца збіраннем і вывучэннем гэтага друку! Ці ж мала знайшлі-б мы тут прыкладаў патрыятызму, гераізму, дружбы?

Ёсць у нас слаўныя традыцыі, ды не ўмеем іх паказаць.

ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ.

Музей Айчыннай вайны у Мінску. Тут змешчаны адрэзак гісторыі беларускага народа, які вякамі будзе вывучацца, як прыклад народнай горачы, мужнасці і бяспрыкладнай самаахвярнасці і любві да Айчыны.

Пераступіўшы парог прыкоўваюць позірк фрагменты абліцоўкі сцяны Брэсцкай крэпасці. Справа не ў абліцоўцы, а ў надпісах зробленых на ёй. Уражаюць гэты нязграбныя літары, выведзены відавочна, штыком:

«1941 год 26 июня. Нас было трое, нам было трудно, но мы не пали духом и умерли как герои»...

«Умираю, но не сдаюсь. Прощай Родина». І ў кутку дата. Ні-то 28, ні-то 29 ліпеня 1941 года.

Тут-жа гімнасцёрка і комсамольскі білет лейтэнанта Наганава, знойдзены ў 1949 годзе пад Тэрэспальскай вежай.

Як рэліквіі захоўваюцца ў музеі гэты надпісы і рэчы абаронцаў крэпасці, якая прыняла на сябе першы ўдар ворага і больш месяца змагалася да апошняга байца.

